**ПАСЛАННЕ З ЭМІГРАЦЫІ**

### Зянон ПАЗЬНЯК:

# Байкот — першы крок да кансалідацыі грамадства

***На чэрвеньскім сойме Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ быў зачытаны чарговы палымяны заклік лідара партыі Зянона Пазьняка, які знаходзіцца ў палітычнай эміграцыі.***

На гэты раз пасланне паплечнікам было прысвечана маючым адбыцца выбарам у Нацыянальны сход Беларусі. Яго аўтар выступіў у сваім амплуа:

*"Рэжым праводзіць усё больш жорсткую палітыку. Складаецца ўражанне, што ў хунты паўстала падсвядомае адчуванне тупіка і канца. Адсюль імкненне нашкодзіць і разбурыць як мага больш. Гэта і ёсць галоўная стратэгія рэжыму, якая мусіць (як там мяркуюць) забяспечыць яму працягласць антыбеларускай улады".*



На думку палітыка, у рэчышчы канцэпцыі альтэрнатывы антыбеларускаму рэжыму важнай з'яўляецца прапаганда (і аргументацыя) байкоту восеньскіх выбараў у так званую палату.

*"Разумныя людзі з асяроддзя нашых грамадзян даўно зразумелі, што "палата" — гэта ніякі не парламент, што яна не мае ніякіх правоў і магчымасцяў, што гэта прафанацыя заканадаўчай улады, якая ствараецца шляхам цынічных фальсіфікацый вынікаў галасавання, што яна да таго ж нелегітымная і не прызнана светам. Але вельмі важна, каб гэтыя людзі хутчэй зразумелі, што на выбары такога ліпавага "органа ўлады" хадзіць нельга, і наогул ні на якія выбары рэжыму хадзіць не трэба — каб не спрыяць фальсіфікацыі галасоў і дэмагогіі пра нібыта легітымнасць сфальсіфікаванай улады.*

*Важна, каб больш і больш разумных людзей усвядомілі, што ніякая альтэрнатыва ніколі не зможа выйграць выбары ў гэтага рэжыму, бо гэта не выбары, а толькі імітацыя выбараў для афармлення незаконнай улады.*

*Тыя людзі, якія свядома не пойдуць на фальшывыя выбары, каб не ўдзельнічаць у злачынстве і не дапамагаць рэжыму, тыя людзі стануць сацыяльнай асновай, на якую па вызначэнні зможа абапірацца супраціў антыбеларускай палітыкі чужой улады. Гэта працэс, які трэба будаваць крок за крокам — стварэнне нацыянальнага палітычнага авангарду і стварэнне сацыяльнага асяроддзя, здольнага ўспрымаць ідэі авангарду. Тады, пры наяўнасці нацыянальнай альтэрнатывы акупацыйнаму рэжыму, магчыма пабудова шырокай сістэмы перамен (ізноў гэтак жа, як рабіў БНФ на пачатку 90-х гадоў)".*

Праца па падрыхтоўцы байкоту мусіць зыходзіць з правільнай ацэнкі цяперашняй рэчаіснасці. Не рабіць таго, чаго ў гэтых умовах рабіць не трэба: не марнаваць час на правальных людзей і правальныя сітуацыі. Дзейнасць мусіць быць адраснай, разлічанай на вынік.

"Усе мы мусім разумець, што байкот не прыносіць перамогі на выбарах, але паляпшае (і стварае) ўмовы для сістэмнай барацьбы з рэжымам, для яго ліквідацыі. Байкот — першы крок да кансалідацыі грамадства", — сказаў лідар КХП БНФ.

На яго думку, цяпер неабходна рабіць наступнае:

— асвета, прапаганда і інфармаванне людзей пра байкот (па адпрацаваных адрасных схемах);

— падрыхтоўка кандыдатур ва ўчастковыя камісіі па выбарах;

— падрыхтоўка назіральнікаў за галасаваннем на выбарчых участках і за удзелам выбаршчыкаў у галасаванні;

— падрыхтоўка іншых сістэм назірання (па вядомых схемах);

— падрыхтоўка юрыдычнай групы і групы інфармацыі.

Арганізацыйныя пытанні не трэба адкладаць на потым, спасылаючыся на запас часу. Пачынаць трэба цяпер.

*"Тактыка агентуры па выкарыстанні псеўдаапазіцыі добра бачная: заблытаць пазіцыю байкоту да абсурду і маразму ў галовах людзей, стварыць несур'ёзнае стаўленне, пасмяяцца і скампраметаваць, каб ніхто ні ў чым не разабраўся. Цяпер яны наладжваюць чарговы скандал: адны быццам бы за байкот, іншыя — не. Адны ідуць на выбары, а потым здымаюцца і аб'яўляюць байкот. Іншыя ідуць на выбары, але агітуюць за байкот. Адны не ідуць на выбары, але абвесцяць байкот, калі рэжым не зменіць выбарчае заканадаўства. Іншыя, наадварот, ідуць на выбары, нягледзячы ні на што, каб "данесці свае ідэі да народа". (Якія ўжо там у іх "ідэі"?).*

*Увесь гэты дурдом уладкаваны для таго, каб людзі падумалі, што байкот — гэта чарговае прадажнае глупства псеўдаапазіцыі, набытае за чужыя грошы, і каб людзі, убачыўшы гэта, перасталі б сур'ёзна ўспрымаць неабходнасць байкоту, каб заблыталіся ў партыях і пазіцыях і падумалі, што альтэрнатывы Лукашэнку няма і ёсць, хоць і бандыцкі, але нейкі парадак.*

*Усё гэта будзе працягвацца да апошняга часу, а ў канцы ўсе яны дружна пойдуць вылучацца і галасаваць",* — упэўнены Пазьняк.

**ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ**

## Пасправбуй пражыві!

Сярэдні памер дапамогі па беспрацоўі ў Мінску складае 181,4 тысячы рублёў.

Гэта, дарэчы, значна меней за бюджэт пражытачнага мінімуму ў Беларусі, які зараз складае 574.790 рублёў.

На 1 чэрвеня ў сталіцы было зарэгістравана 2682 беспрацоўныя. За студзень—май 2012 года па садзейнічанне ва ўладкаванні на працу звярнуліся больш як 8600 чалавек. За студзень—май 2012 года зарэгістравана прыкладна 83 тыс. зваротаў у пошуку работы да электроннага банка вакансій у аддзелах працаўладкавання і прыкладна 4,7 млн — да электроннага банка вакансій на сайце Мінгарвыканкама.

**ТЫМ ЧАСАМ**

## Якіх спецыялістаў не хапае?

Паводле звестак Камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Мінгарвыканкама, найбольш запатрабаванымі спецыялістамі ў сталіцы з'яўляюцца:

вадзіцелі аўтамабіляў (920 вакансій),
кандуктары (589),
медыцынскія сёстры (572),
прадаўцы (458),
маляры (401),
швачкі (376),
тынкоўшчыкі (402),
урачы-спецыялісты (362).

## 10 і 20 рублёў стануць несапраўднымі з 2014 года

Выпуск банкнот гэтага наміналу будзе спынены 1 верасня 2012 года, а з абарачэння дзясяткі і дваццаткі выведуць да 1 красавіка 2014 года. Гэта прадугледжана адпаведнай пастановай праўлення Нацыянальнага банка. Пры гэтым банкноты наміналам 10 і 20 рублёў па 28 лютага 2013 года ўключна абавязковыя да прыёму па намінальным кошце пры ўсіх відах плацяжоў без усялякіх абмежаванняў, гаворыцца ў рашэнні Нацбанка.

**ИСТОРИЯ ЛЮБВИ**

# «Как увидел я Семеновну, то сразу почувствовал: это моя судьба»



Я искал солдата, начавшего свой боевой путь с первого дня войны, прошедшего все огнипожарища, выжившего и здравствующего поныне. Не сразу, но отыскал счастливчика. В ветеранской организации Первомайского района столицы мне назвали его — Мечислав Адамович Зеневич. И добавили: "Мы только что поздравили его, ветерану исполнилось 95 лет. Представляете, родился он 1 мая 1917 года".

Этот месяц знаменателен для Адамовича вдвойне. Как сказал он мне при встрече, "на майские праздники я встретился со своей Семеновной и прожил с ней 60 лет".

В глазах ветерана будто вспыхнуло солнышко, скатилась слеза, и он надолго замолчал. Вероятно, мысли унесли его далеко-далеко. И я не беспокоил Зеневича своими вопросами, заготовленными заранее. Чувствовалось, разговор пойдет не по моему сценарию. И не ошибся. Военная тематика как-то сама собой отступила на второй план. На первый вышла ее Величество любовь, вспыхнувшая во время лютых испытаний. Он и Она, еще ни разу не встречавшиеся, потянулись строками писем друг к другу и "нашлись" только в апреле 1946 года.

Четыре года они переписывались, не зная и не видя друг друга. К сожалению, писем военных лет не сохранилось в личном архиве ветерана. Но их с лихвой заменил берущий за душу рассказ Мечислава Адамовича.

— Знаете, какая тоска гложет на передовой между боями? — начал с признания ветеран. — Не все же время стрельба и атаки. Есть затишья перед бурей. И вот появляется почтальон, раздает письма от родных и близких, от жен и любимых. А мне ни весточки. Родные края под пятой фашистов. А девушку свою я пока не встретил. Все воевал и воевал. Был на войне с белофиннами. Не успела одна навала стихнуть, как вторая нагрянула. Наша дивизия первый бой приняла уже 26 июня 1941 года. Так что не до знакомств было.

— А где родились вы, Мечислав Адамович?

— На Минщине, в Копыльском районе. С первых дней войны, как вы знаете, он оказался под оккупацией, никакой информации оттуда. Я о своей семье ничего не знал, да и они обо мне ничего не ведали. Как рассказывала мне после войны сестра: мама наберет в чугунок черных пауков, накроет плотно крышкой и выдерживает их больше недели. А затем откроет чугунок — а пауки живые. Говорит: "Значит, и мой Мечик жив". Вот такое поверье было в наших местах. Но мама, к сожалению, не дождалась ни меня, ни моего письма, умерла за год до победы.

Мой собеседник снова надолго замолчал. Я понимал его: тяжело вспоминать, тяжело переживать прошлое. С годами особенно. Через несколько минут Зеневич поднял голову, вытер платком глаза и хрипловатым голосом продолжил начатый разговор.

— В 1942 году прибыл в нашу часть Вася Лазарев родом из села Белозерье Ульяновской области. Мы с ним познакомились, подружились. И однажды я говорю ему:

— Нет ли у тебя девушки знакомой, хочу переписываться с ней.

А Вася в ответ:

— Есть в моем селе две подружки. Одна красивая, но без образования. Другая, Настя Климова, в институте училась, однако с гонором.

И решил я написать письмо этой гонористой Насте. Рассказал о себе, о родителях, послал привет с фронта. И стал ждать ответа. Только ответ не сразу пришел. Правду узнал только после войны. Девушка, оказывается, переписывалась тогда с другим парнем. И, получив мое послание, сказала матери: "Не буду отвечать этому солдату. Я его не знаю и не знаю, почему он мне написал". А мама ей в ответ: "Как тебе не стыдно! У человека вся семья в оккупации, писать некому. Надо поддержать! Пиши ему как брату своему".

Так завязалась наша дружба, дружба по переписке. Анастасии в письмах о любви я не писал, да и не было ее у меня сразу. Просто хотелось общения с той, как мне казалось, невоенной жизнью. Вот и переписывались мы с ней всю войну. И со временем девушка Настя мне так на душу легла, что стала родным человеком. Я почувствовал: начинаю любить ее.

И вот май 1945 года. Победу я встретил в Болгарии. По этому случаю пошел в студию, сфотографировался и послал своей девушке снимок. А на обратной стороне написал: "Лучше вспомнить и взглянуть, чем взглянуть и не вспомнить. Твой друг Мечислав. Память военных лет 1942—1945 годов".

А Ася в ответ свое фото выслала. На карточке были две девушки: она и подруга ее Аня Молева. А чтоб я знал, кто есть кто, стрелочку поставила в уголке карточки. И на обратной стороне написала: "Пусть этот мертвый отпечаток напомнит о живой душе".

Я духом воспрянул, подумал, что я ей, наверное, тоже не безразличен, и решил, что уже можно намекнуть о любви и нашей будущей встрече. И в том же месяце снова послал второе фото со стихами.

*И вот тогда твой образ я увижу,*
*Но не на мертвом фото, наяву*
*Тебя, моя любимая, услышу,*
*Скажу: привет! И имя назову.*

После этих писем мы переписывались еще целых полтора года. А в 1946-м, в апреле, мне дали отпуск. Я уже заранее договорился с Асей, что приеду к ней в гости. Собрал "боевой припас" — офицерский паек, прикупил литр коньяка, ликера, болгарской и русской водки. И, добравшись до Москвы, посылаю Анастасии Климовой телеграмму: встречай в такой-то день и в такой-то час.

Выхожу в Ульяновске на перрон, ищу глазами похожую на Асю девушку, не вижу такой. Постоял, подождал, все люди разошлись. Что делать? Решил в институт идти. Там мне дали адрес, где в то время Анастасия Климова снимала квартиру. Нашел небольшой домик. Стучусь в дверь, открываю, а там бабушка лежит на печи. Отрекомендовался я ей и спрашиваю: "А где студентки проживают?" Бабушка в ответ: они, мол, находятся во второй комнате. И крикнула: "Девушки, к вам гость приехал, встречайте!" Первой выскочила Аня Молева, подружка моей Аси, глянула на меня и тоже громко закричала: "Ася, Мечислав приехал!" Ася из комнаты выбежала, кинулась мне на шею, целовать начала.

А телеграмму они мою не получили. И вот "нежданный" гость стоит на пороге. Сразу скажу, как увидел я Семеновну, то сразу почувствовал: это моя судьба. Всю ночь сидели вместе, разговаривали. Я ей золотых гор не обещал. А обещал верную любовь. И сделал ей предложение. Пошли через день в загс и подали заявление.

Зарегистрировали нас сразу после первого празднования Дня Победы, в мае 1946 года. Вот какое совпадение! Вечером пригласили Асиных подружек и отметили это событие.

60 лет прожил Мечислав Адамович со своей Асей. Анастасия Семеновна подарила мужу сына и дочь. Все, кто бывал в их доме, отмечали добрые, дружеские взаимоотношения супругов, которые можно назвать одним словом — Любовь.

Но вот Аси не стало. И грустит без нее бывший боевой артиллерист, полковник, грудь которого в орденах и медалях. Неспроста о нем есть целая статья в энциклопедии "Кто есть кто в Республике Беларусь. Защитники родной страны".

— Жаль, что нет в ней ни строчки о нашей любви, — вздыхает Мечислав Адамович.

На стене висит фото красивой пожилой женщины:

— Моя Семеновна! — говорит ветеран и смахивает слезу.

А мне вспомнилось стихотворение Роберта Бернса: "Не разлучаются сердца, что спаяны в одно". Оно об Анастасии и Мечиславе Зеневич.

**Евгений КОЗЮКИН.**

**АМНИСТИЯ**

## Клевету на президента приравняли к изнасилованию

15 июня в Палату представителей из Администрации президента поступил проект закона об амнистии. Как и предсказывали правозащитники, несмотря на амнистию, политзаключенные останутся в тюрьмах. Предложенный депутатам вариант проведения амнистии демонстративно карательный по отношению к лицам, осужденным по так называемым "политическим делам".

Такое ощущение, что он писался с учетом персоналий и конкретных статей УК, по которым выносились приговоры на "политических" процессах. Даже журналист Анджей Почобут, осужденный закрытым судом по статье "Клевета в отношении президента РБ", под амнистию не попадет. Хотя он, видимо, единственный в стране осужденный по этой статье, тем не менее ее включили в раздел "Амнистия не распространяется...".

Вот выдержка из сопроводительного письма депутатам министра внутренних дел Игоря Шуневича.

*"Амнистия не распространяется на лиц:*

*— к которым в течение 2005—2012 годов применялись амнистия или помилование и которые вновь совершили умышленные преступления;*

*— полностью не возместивших причиненный преступлениями ущерб или доход, полученный от незаконной предпринимательской деятельности, подлежащий взысканию с них по приговору;*

*— злостно нарушающих порядок отбывания наказания;*

*— допустивших особо опасный рецидив;*

*— осужденных за преступления, предусмотренные статьей 124 "Террористический акт против представителя иностранного государства", частью 2 статьи 139 "Квалифицированное убийство", частью 3 статьи 166 "Изнасилование", частью 3 статьи 167 "Насильственные действия сексуального характера", статьей 285 "Создание преступной организации либо участие в ней", статьей 286 "Бандитизм", статьей 289 "Терроризм", статьей 290-1 "Финансирование террористической деятельности", статьей 293 "Массовые беспорядки", статьей 317-1 "Управление транспортным средством лицом, находящимся в состоянии алкогольного опьянения", статьей 342 "Организация и подготовка действий, грубо нарушающих общественный порядок, либо активное участие в них", статей 343-1 "Изготовление и распространение порнографических материалов или предметов порнографического характера с изображением несовершеннолетнего", статьями 356—362 (преступления против государства, убийство сотрудника органов внутренних дел), 367 "Клевета в отношении президента", 369-3 "Нарушение порядка организации или проведения массовых мероприятий";*

*— объявленных в розыск в связи с уклонением от отбывания наказания по приговору суда на день рассмотрения материалов о применении амнистии".*

**Елена НОВИКОВА.**

**МЕТРО**

# Усе на вушах...

1 верасня ў лік дзеючых павінны ўступіць чатыры новыя станцыі метрапалітэна. Яны станучца працягам 1-й лініі і злучаць Паўднёвы Захад і Малінаўку з цэнтрам сталіцы ды іншымі раёнамі. Ці ўкладваюцца ў графік метрабудаўцы? І ці паспеюць яны ўвогуле здаць аб'ект у тэрмін? Усё гэта паспрабаваў высветліць наш карэспандэнт на месцы...

Першы прыпынак — станцыя "Пятроўшчына"... Ля ўсім вядомага гандлёвага цэнтра "Кірмаш" грандыёзная па памерах будпляцоўка: бульдозеры, краны, трубы... Такой яна выглядала і раней, адно новенькае — з'явіліся ўваходы (праўда, недаробленыя) на будучую станцыю. Пытаюся ў майстроў-прарабаў, як прасоўваюцца работы на глыбіні і паверхні, але тыя ледзь не ў адін голас: "Рэжымны аб'ект, рэжымны аб'ект..." Ну акурат паводле Райкіна: "Ах, в Греческом зале, ах, в Греческом зале..." Уражанне такое, што не метро гоняць, а шахты для балістычных ракет свідруюць.



Каб задаць пару пытанняў якому прарабу, то трэба, бачыце, спецдазвол...

Але тае бяды, можна і па-іншаму... Падыходжу да хлопцаў, якія пракладваюць трубы. "Але мы не з іх канторы, проста парымся тут разам, — прыколваецца адзін з трубаўкладчыкаў. — От перажываем за калег, бо ў іх тэрміны, начальства падганяе. Карацей, стаяць усе на вушах... Бо хто ж аджыліць тую прэмію, калі не ўкладзешся ў тэрмін... Спачуваю і трубаўкладчыкам (спёка ж несусветная), і метрабудаўцам, у якіх "гарыць" прэмія..."

Наступны прыпынак — уваход на станцыю "Грушаўка"... Тут ужо — на каркаснай дахоўцы — красуецца вялізная чырвоная літара "М". Значыцца, не проста падземны пераход, а самая што ні на ёсць станцыя метро. Праўда, усё яшчэ вядуцца аддзелачныя работы: сівавусы дзяцюк нетаропка, але з веданнем справы ладзіць-майструе металічныя парэнчы, што вядуць у цёмную пакуль прорву падземкі. За перакурам перакідваемся словамі...

— Мусіць, хутка пабягуць цягнікі? — не то сцвярджаю, не то пытаюся ў незнаёмца. Але той бурчыць зусім іншае:

— Хутка толькі коцікі нараджаюцца, а метро, братка, куды як складаная рэч, і дарагая... Па плане то ў верасні павінны запусціць, але ж не падобна на тое, бо верасень на носе, а фініш яшчэ далекавата...

— Дзіўна, па радыё казалі, што пуск дакладна ў верасні, — падтрымліваю, як магу, размову з дзецюком.

— Казалі-мазалі! — злуецца той. — А не казалі, што яшчэ нямашака 40 кіламетраў рэек?.. А тыя рэйкі, між іншым, трэба яшчэ купіць, прывезці, устанавіць. От і мяркуй цяпер, добры чалавек, калі гэтае метро запрацуе...

Па вялікім рахунку, мне ўсё роўна, калі кранецца той вагончык — як рак свісне, ці калі падалкі з яблынь пасыплюцца. На тыдзень пазней, на месяц — якая, у прынцыпе, розніца?..

Зацікавіла іншае: як успрымацьмуць падземку людзі, што пражываюць у прыватных дамах побач з новай лініяй метро? Хаты ж, лічы, проста над гэтай лініяй. І такіх дамоў даволі — па 2-й вуліцы Шчорса, па 1-й Землямернай. Прыпыняюся ля лавачкі побач з пахілай да зямлі хатай. Міхайлаўна і Вікенцьеўна (так назваліся бабулі) метро вітаюць, але непакояцца за свае пабудовы: маўляў, могуць разваліцца, як пойдуць цягнікі.

— І цяпер ужо дрыжыць хата, як праязджае побач бетонамяшалка, — кажа адна з старых, — а цягнік жа — не аўтамабіль...



— То, можа, вам прапаноўвалі кватэры замест вашых хібар? — цікаўлюся ў старых.

— Ніхто нічога не прапаноўваў, — амаль у адзін голас кажуць. — Сказалі, што ў 2025 годзе знясуць увесь прыватны сектар. Тады і прапануюць. Але мы ўжо не дажывём, бо нам зараз па 75 гадоў. Хіба што ўнукі...

Яшчэ бабулькі паскардзіліся на тое, што драўляную лесвічку, якую зладзілі метрабудаўцы для месцічаў і якая вядзе проста на тратуар, яны забяруць з заканчэннем будоўлі. "Сказалі, што гэта ўласнасць метрабуда і што пра новыя сходцы павінен паклапаціцца Маскоўскі райвыканкам, — падвяла рысу Вікенцьеўна. — А вы кажаце пра нейкія кватэры..."

Як бы там ні было, чатыры новыя станцыі запусцяцца ў гэтым годзе — дакладна! І гэта самае галоўнае. На тым пагадзіліся нават бабулькі, хаты якіх, па іх словах, могуць парушыцца з-за блізкасці падземкі...

**Георгій ПЛАТОНАЎ.**
**Фота аўтара.**

**КАНФЛІКТ**

## Дараствараліся...

Прэм'ер-міністр Расіі Дзмітрый Мядзведзеў асабіста даручыў профільным ведамствам прааналізаваць сітуацыю з экспартам нафтапрадуктаў з Беларусі. Праверка мае скандальны падтэкст.

Правяраць, ці не мухлюе Беларусь з экспартам нафтапрадуктаў, выробленых з расійскай нафты, па даручэнні Мядзведзева будуць міністры энергетыкі, прамысловасці і эканомікі.

Нагадаем, што Беларусь у абмен на бяспошлінную нафту абавязана пералічваць у расійскі бюджэт пошліну ад экспарту нафтапрадуктаў за межы Мытнага саюза. Праўда, пры экспарце растваральнікаў уся выручка застаецца ў Беларусі, ніякіх сродкаў у бюджэт Расіі беларускі бок пералічваць не павінен.

Паводле меркавання экспертаў расійскага інстытута "Энергетыка і фінансы", у свеце ў год звычайна набываецца не больш за 1,5 мільёна тон растваральнікаў і змазачных матэрыялаў. А адна толькі Беларусь, калі верыць мытнай статыстыцы, толькі за мінулы год прадала іх 2 мільёны тон. Хоць раней наша краіна ўвогуле не была заўважана ў ліку найбуйнейшых экспарцёраў растваральнікаў.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

**ЧУЛІ?**

## На Нямізе можна атруціцца...

*Названы самыя брудныя з пункту гледжання выкіду шкодных рэчываў у атмасферу вуліцы Мінска.*

Імі з'яўляюцца вул.Багдановіча, вул.Ціміразева, пр.Незалежнасці (у раёне парку ім.Чалюскінцаў) і пл.Свабоды, паведамілі прадстаўнікі Цэнтра экалагічных рашэнняў.

Сітуацыю на вул.Нямізе эколагі назвалі крытычнай, а знаходжанне больш за чвэрць гадзіны пад казырком гандлёвага дома "На Нямізе", па іх словах, можа мець наступствы для здароўя.

— У структуры забруджвальных фактараў выхлапы шкодных рэчываў у атмасферу займаюць каля 60%, — падкрэслілі эколагі.

